№5 (309)
2012

# Права на волю

Праваабарончы бюлетэнь



# Прысуд прыведзены ў выкананьне

### 16 сакавіка стала вядома, што асуджаныя да сьмяротнага пакараньня Канавалаў і Кавалёў расстраляныя

Сваякі Улада Кавалёва атрымалі паведамленьне з Вярхоўнага суда, адпраўленае 16-га сакавіка, аб тым, што прысуд прыведзены ў выкананьне. Даведку пра тое, што прысуд прыведзены ў выкананьне, даслалі на хатні адрас Кавалёвых у Віцебску. Ліст з паштовай скрыні дастала маці, Любоў Кавалёва. Гаварыць яна ня можа – толькі плача.

"Во толькі што мама са скрыні дастала. Вярхоўны суд... ад 16.03 ліст... што прысуд прыведзены да выкананьня... Мама яго атрымала. Яны яго забілі, усё было дарэмна", – толькі і змагла сказаць скрозь сьлёзы Таццяна, сястра Уладзіслава Кавалёва.

*Праваабарончыя матэрыялы можна таксама прачытаць на сайтах: www.spring96.org; www.charter97.org; www.baj.by*

Колішні начальнік "Валадаркі" Алег Алкаеў у інтэрв'ю "Свабодзе" сказаў, што асуджаны на сьмерць Уладзіслаў Кавалёў можа знаходзіцца ў камеры сьмяротнікаў, што разьмешчаная ў сьпецкалідоры ў сутарэньнях старога будынку "Валадаркі". Пра час сьмерці зьняволеныя даведваюцца ў самы апошні момант – літаральна за некалькі хвілінаў да расстрэлу...

Але ў выпадку з асуджанымі па справе тэракту ўлады пасьпяшаліся.Еўрарадыё выказвае меркаваньне, што Кавалёў мог быць расстраляны ў той самы дзень, калі пра гэта паведаміла дзяржаўнае тэлебачаньне. Бо на наступную раніцу адвакату Станіславу Абразею паведамілі, што Кавалёва этапавалі з СІЗА КДБ, дзе ён знаходзіўся ўвесь час.

Маці і сястра Кавалёва сустрэліся з ім 11 сакавіка ў СІЗА, 13-га стала вядома, што яго не памілавалі. 14 сакавіка стала вядома, што Аляксандр Лукашэнка не памілаваў Уладзіслава Кавалёва і Дзьмітрыя Канавалава. 16 сакавіка маці Кавалёва разам з адвакатам перадалі заявы з просьбай даць пісьмовыя адказы, дзе знаходзіцца Улад, у ізалятар КДБ і ў Дэпартамент выкананьня пакараньняў МУС. У ДВП заяву не прынялі, сказалі, што трэба зьвяртацца ў Вярхоўны суд. 30 лістапада 2011 году Вярхоўны суд Беларусі прызнаў Уладзіслава Кавалёва вінаватым у саўдзеле ў тэрарызме і прысудзіў яго да сьмяротнага пакараньня. 7 сьнежня асуджаны падаў прашэньне аб памілаваньні на імя Аляксандра Лукашэнкі.

Як стала вядома з паведамленьня агенцтва БелТА і АНТ, прысуд у дачыненьні да Дзьмітрыя Канавалава таксама выкананы.

## Любоў КАВАЛЁВА:

# "Я ні перад чым не спынюся"

Любоў Кавалёва ніколі не верыла ў вінаватасьць сына, асуджанага да вышэйшай меры за тэракт у менскім метро. І нават пасьля таго, як прысуд быў выкананы, яна хоча змагацца – цяпер ужо дзеля памяці Уладзіслава.

Атрымаўшы з Вярхоўнага суда даведку пра тое, што Уладзіслаў Кавалёў расстраляны, яго маці ня можа прыйсьці ў сябе ад шоку: "Я падрыхтавала звароты да Пуціна і Мядзьведзева, адаслала лісты нашым дэпутатам, каб паўплывалі на Аляксандра Лукашэнку, каб быў уведзены мараторый на сьмяротнае пакараньне. Мы так шмат не пасьпелі зрабіць! Яшчэ не разгледжаная наглядная скарга, не разгледжаны наш зварот у ААН. І я прасіла, каб прыпынілі, не выконвалі прысуд, пакуль з ААН не адкажуць! Але гэта было ўжо позна… 11 сакавіка я бачыла сына апошні раз, са мной усе былі падкрэслена ветлівыя ў СІЗА КДБ, і толькі цяпер я разумею, што гэта было ня проста так… А праз два дні да Улада не дапусьцілі адваката, сказаўшы, што такога зьняволенага Кавалёва ў СІЗА КДБ няма. Але я спадзявалася да апошняга!"

Маці пакаранага за тэракт Уладзіслава Кавалёва кажа, што такое пасьпешлівае пакараньне – гэта помста за тое, што яна змагалася за сына: "Мяне ўжо ўпікалі тым, што я нібыта зьвязалася з апазіцыяй, што дарма ездзіла да еўрапейскіх палітыкаў. І нават абвінавачвалі ў тым, што я зьвярнулася да праваабаронцаў – маўляў, усё было б добра, каб я толькі ціха прасіла памілаваць сына. Гэта ня так. Па-першае, апазіцыя тут ні пры чым – што я ні рабіла, я рабіла гэта сама, пакладаючыся толькі на сябе. А дапамагалі мне многія – бо нават пацярпелыя ад тэракту ня верылі сьледзтву і суду, ня верылі ў вінаватасьць Улада. А па-другое, мы маем прыклад Дзімы: яго сям'я не зьвярталася нікуды. А прысуд быў адзін, і вынік – той самы!"

Любоў Кавалёва кажа, што хоча трапіць на аўдыенцыю да Аляксандра Лукашэнкі, бо ў яе ёсьць, што там сказаць. Дый проста хочацца зазірнуць у вочы чалавеку, ад якога ўсё залежала – і які паставіў апошнюю кропку ў справе тэракту, дзе засталося шмат белых плямаў.

# "Гэта ігнараваньне міжнароднага права"

Прывядзеньне ў выкананьне сьмяротнага прысуду ў дачыненьні да Уладзіслава Кавалёва супярэчыць усім міжнародным нормам, лічыць кіраўнік юрыдычнай камісіі праваабарончага грамадзкага аб'яднаньня "Беларускі Хельсінскі камітэт" Гары Паганяйла. Ён паведаміў, што 16 сакавіка БХК паўторна зьвярнуўся ва ўладныя органы Беларусі з просьбай адтэрмінаваць выкананьне прысуду Кавалёву і Канавалаву да таго часу, пакуль іх справа ня будзе разгледжаная ў Камітэце ААН па правах чалавека. "Тое, што прысуд прыведзены ў выкананьне, – гэта поўнае грэбаваньне міжнародным правам", – заявіў Паганяйла.

Праваабаронца Тацяна Равяка адзначыла ў інтэрв'ю БелаПАН, што да гэтага часу ў дачыненьні да Уладзіслава Кавалёва не была разгледжаная наглядная скарга ў Вярхоўным судзе.

"Адвакат Кавалёва падаў наглядную скаргу. Яна да гэтага часу не разгледжаная. Прадстаўнік Беларусі ў ААН інфармаваў камітэт ААН, што Кавалёў падаў у Вярхоўны суд Беларусі скаргу ў парадку нагляду на прысуд суда. Такім чынам, яго скарга не падлягала разгляду, паколькі Кавалёў не вычарпаў усе ўнутраныя сродкі прававой абароны да звароту ў камітэт. Тым ня менш, прысуд прыведзены ў выкананьне", – адзначыла Равяка.

"Для нас такія паводзіны ўладаў – гэта шок", – сказала Равяка.

Шокам вестка аб расстрэле Кавалёва стала і для кіраўніка грамадзкай арганізацыі "Цэнтр правоў чалавека" Раісы Міхайлоўскай.

"Гэта поўнае ігнараваньне міжнароднага права. Беларускія ўлады лічаць, што як яны вырашылі, так яно і будзе, нягледзячы на Камітэт па правах чалавека ААН, нягледзячы на тое, што скарга ў парадку нагляду была неразгледжаная", – адзначыла Міхайлоўская.

## Акцыя супраць сьмяротнага пакараньня




*16 сакавіка каля станцыі метро "Кастрычніцкая" людзі ўсклалі кветкі да мемарыяльнай шыльды ў памяць аб загінулых ад тэракту 11 красавіка 2011 году з патрабаваньнем увесьці мараторый на сьмяротнае пакараньне. Ідэя ўскладаньня кветак прагучала ў сацыяльных сетках. Паводле інфармацыі Charter97.org, з удзельнікаў, як мінімум, восем чалавек потым затрымалі. Сярод іх было 4 дзяўчыны, у тым ліку адна непаўналетняя, і чатыры хлопцы.*

## Вольга ЗАВАДЗКАЯ:

# "Я дачакаюся праўды аб сыне"

***Споўнілася 10 гадоў, як вынесены прысуд па справе аб зьнікненьні тэлеаператара Дзьмітрыя Завадзкага. Хаця ў абвінавачаньні былым супрацоўнікам сьпецслужбаў Валеру Ігнатовічу і Максіму Маліку, а таксама Аляксею Гузу і Сяргею Саўшкіну інкрымінавалася больш за 20 злачынных эпізодаў, але за працэсам замацавалася назва "справа Завадзкага". Ігнатовіч і Малік былі прызнаныя вінаватымі ў выкраданьні Завадзкага. Але за 10 хутка праляцелых гадоў праўда аб лёсе журналіста так і ня стала вядомай – распавяла маці зьніклага аператара Вольга Завадзкая ў гутарцы з карэспандэнтам "Радыё Рацыя".***



Вольга ЗАВАДЗКАЯ.

***– Мінула дзесяць гадоў з моманту сканчэньня суду па справе зьнікненьня Дзьмітрыя Завадзкага. Што Вы тады адчувалі? Ці былі ў Вас нейкія надзеі сустрэцца з Дзьмітрыем? Што зараз адчуваеце і думаеце аб гэтай справе?***

– Адчувала тады надзею. Як магла, змагалася. Мне шмат дапамагалі і журналісты, і адвакаты, і юрысты, і праваабаронцы. Я ім бясконца ўдзячная за тую працу, якую яны рабілі, ды і зараз робяць. Што зьмянілася за 10 год? У душы – пустата. Таму што ўсе этапы, якія прайшла нашая сям'я і па судах, і па юрыдычных кансультацыях, усё гэта не дало ніякіх вынікаў. І зараз ніхто не можа адказаць на адзінае пытаньне – што ўсё ж такі рабілася за гэтыя 10 гадоў для пошукаў Дзьмітрыя? Таму што ўсе нашы звароты ў пракуратуру сканчаюцца адказамі, якія нічога не каштуюць – адпісалаўкамі!

***– А што адказваюць? Ці справа ўвогуле, можа быць, зачыненая ўжо?***

– Не, справа прыпыненая. Але нам адказваюць, што справа працягваецца, праводзяцца нейкія сьледчыя мерапрыемствы. Але якія, невядома. І на гэтым адказы канчаюцца. Таму ў мяне адна надзея, і яна ў мяне не зьнікае – што я ўрэшце усё ж даведаюся праўду аб тым, што адбылося.

***– А якія ў Вас версіі таго, што адбылося з Дзьмітрыем? Вы прысутнічалі на судзе, слухалі довады, факты, сьведчаньні, якія назбірала сьледзтва. Якое ў Вас уражаньне склалася аб тым, што тады адбылося – 7 ліпеня 2000 году, калі Дзьмітрый зьнік?***

– Адно зразумела, што яго скралі. Другое, я вельмі шкадую, што справу Завадзкага не выдзелілі ў асобную вытворчасьць. Слуханьні праходзілі ў канве тых жахлівых злачынстваў, у якіх абвінавачвалася група Ігнатовіча.

***– Больш за 20 злачынных эпізодаў было выстаўлена ў абвінавачаньні Ігнатовічу і іншым.***

– Так. Яны вельмі крывавыя і вельмі жорсткія. Былі эпізоды, якія ўваходзілі ў паралель з выкраданьнем Дзьмітрыя. Так, быў скрадзены нейкі Котаў, дырэктар аўтабазы, дзе працаваў бацька Ігнатовіча. У сьледчым працэсе маю ўвагу ўвесь час спрабавалі зьвярнуць на гэты эпізод, таму што чалавек зьнік, здаецца, па аналагічнай схеме, падобнай на тую, па якой зьнік мой сын Дзіма. Вінаватыя ці не Ігнатовіч і Малік у выкраданьні Дзьмітрыя – складанае пытаньне. Яны зараз асуджаныя да пажыцьцёвага зьняволеньня. Але заслугоўваюць гэтага, таму што на самой справе злачынцы. Такое ўражаньне склалася ў мяне на судзе. Я ня ведаю, што падштурхнула і каго да выкраданьня Дзьмітрыя. Таму што ён быў і на чачэнскай вайне, рабіў там нейкія здымкі. Дзе не прыйшоўся даспадобы мой сын і хто быў зацікаўлены ў тым, каб ён замоўк, невядома. Ці расійскі гэта бок, ці беларускі? Асабістая помста Ігнатовіча, які ваяваў у Чачні, і аб якім аднойчы Дзьмітрый распавёў у адным сваім інтэрв'ю, але не называючы прозьвішча. Цяжка сказаць, але мне абсалютна ня верыцца, што гэта менавіта асабістая помста Ігнатовіча. Таму што, каб зьнішчыць Дзьмітрыя, у яго было шмат магчымасьцяў. Літаральна як заўгодна і дзе заўгодна ў Менску. І ніхто б пра гэта ня ведаў. Так што цяжка сказаць, хто вінаваты. У мяне шмат думак. З імі вельмі цяжка жыць. Вельмі хочацца ведаць праўду. І, вядома ж, я ня веру, што сёньняшняя ўлада здолее адкрыць усе дакументы. Таму што вельмі цынічна жонцы скрадзенага палітыка Віктара Ганчара Зінаідзе сказалі, што пройдзе 50 гадоў і вам усё раславядуць. Таму вельмі страшна думаць, што нават і наступная ўлада будзе хаваць гэтыя факты.

***– Па справе ад выкраданьні Завадзкага былі асуджаныя супрацоўнік сьпецпадразьдзяленьня па барацьбе з тэрарызмам Максім Малік і былы супрацоўнік гэтага ж атраду і адзін з кіраўнікоў радыкальнай групоўкі "Русское национальное единство" Валерый Ігнатовіч. Але ў прысудзе было адзначана, што ў выкраданьні ўдзельнічалі і іншыя, не выяўленыя сьледзтвам і судом людзі. Ці не зьявілася нейкіх фактаў ці здагадак, хто, па-вашаму, гэта мог быць?***

– Для мяне гэта ўжо даўно не сакрэт. Адным з іх мог быць Аляксандр Леоненка, які на той момант служыў у Службе бясьпекі прэзідэнта. Суседзі Дзьмітрыя апазналі яго, быў складзены яго славесны партрэт, які адзін да аднаго быў падобны на яго фотаздымак. Але сьведак запалохалі, і яны пазьней проста адмовіліся ад сваіх сьведчаньняў. А для мяне ўжо не сакрэт, што ён быў каля дому Дзьмітрыя ў момант яго выкраданьня. Таму што Дзьмітрыя "вялі" ад самага дому. Гэта ўжо на сто адсоткаў устаноўлена судом і пацьверджана сьведкамі, якім я ня схільная ня верыць. Таму я перакананая, што Леоненка там прысутнічаў. Якую ролю ён выконваў і чый заказ, гэта пытаньне.

У лістападзе 2003 году Дзьмітрый Завадзкі быў прызнаны судом Фрунзенскага раёну Менску памерлым. Але Вольга Завадзкая насуперак усяму спадзяецца сустрэцца з сынам. "Гэта мая галоўная мара", – кажа жанчына.

# Міжнародная самаізаляцыя?

Дзейнічаючы па даручэньні Камітэту міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі (КМК), які аб'ядноўвае прадстаўнікоў нацыянальных і міжнародных няўрадавых арганізацыяў прасторы АБСЕ, ажыцьцяўляючы маніторынг агульнай сітуацыі з захаваньнем фундаментальных правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь, падкрэсьліваючы, што правы чалавека зьяўляюцца прадметам прамой і законнай заклапочанасьці міжнароднай грамадзянскай супольнасьці; заклікаючы ўлады Беларусі прытрымлівацца ўзятых на сябе міжнародных абавязкаў у сферы правоў чалавека, у прыватнасьці, свабоды перамяшчэньня, уключаючы права кожнага пакідаць сваю краіну і вяртацца ў яе,

**Міжнародная назіральная місія:**

1. Выказвае сур'ёзную занепакоенасьць з нагоды шэрагу падзеяў, якія сьведчаць аб аднаўленьні ўладамі Рэспублікі Беларусь у сакавіку 2012 году практыкі абмежаваньняў на выезд з Беларусі сваіх грамадзянаў, якія зьяўляюцца грамадзянскімі актывістамі, праваабаронцамі, журналістамі і прадстаўнікамі палітычных партыяў, у прыватнасьці:

– Заявы аб стварэньні спісу людзей, якім абмежаваны выезд з тэрыторыі Беларусі, зробленай 1 сакавіка 2012 г. ў СМІ начальнікам упраўленьня па наглядзе за выкананьнем заканадаўства і законнасьцю прававых актаў Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь Паўлам Радзівонавым (гаворка ішла аб спісе з больш чым 100 чалавек);

– Перашкоды выезду з краіны, з якою 7–11 сакавіка 2012 г. пры спробе пакінуць межы Беларусі сутыкнуліся наступныя апазіцыйныя палітыкі: лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, старшыня партыі "Справядлівы сьвет" Сяргей Калякін, актывіст руху "За Свабоду" Віктар Карняенка;

– Перашкоды 11 сакавіка 2012 году намесьніку старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна" Валянціну Стэфановічу ў выездзе за межы Беларусі з боку супрацоўнікаў дзяржаўнага пагранічнага камітэту без тлумачэньня прычынаў;

– Адмовы з боку аддзела па грамадзянстве і міграцыі Кастрычніцкага раёну г. Віцебску 12 сакавіка 2012 году выдаць лідару грамадзянскай кампаніі "Наш Дом" Вользе Карач даведку, якая пацьвярджае, што яна можа свабодна пакідаць межы Рэспублікі Беларусь, са спасылкай на "атрыманую тыдзень таму забарону" выдаваць падобныя даведкі;

– Выдачы 13 сакавіка 2012 г. старшыні Беларускага Хельсінскага камітэту (БХК) Алегу Гулаку аддзелам па грамадзянстве і міграцыі Фрунзенскага раёну г. Менску даведкі аб тым, што з 5 сакавіка 2012 году яго прозьвішча ўнесена ў банк дадзеных аб грамадзянах Рэспублікі Беларусь, права якіх на выезд з Рэспублікі Беларусь часова абмежаванае, у сувязі з нейкім грамадзянскім пазовам (пры тым, што ў Міністэрстве юстыцыі інфармацыя аб пазове супраць яго адсутнічае);

– Перашкоды 14 сакавіка 2012 году шэф-рэдактару газеты "Наша ніва" Андрэю Дынько ў выездзе за межы Беларусі з боку супрацоўнікаў дзяржаўнага пагранічнага камітэту без тлумачэньня прычынаў;

– Перашкоды 15 сакавіка 2012 году старшыні Беларускай асацыяцыі журналістаў Жане Літвіной і журналісту тэлекампаніі "Белсат" Міхалу Янчуку ў выездзе за межы Беларусі з боку супрацоўнікаў дзяржаўнага пагранічнага камітэту з прастаўленьнем у іх пашпартах штампаў "выезд часова абмежаваны";

– Выдачы 15 сакавіка 2012 году Гары Паганяйлу, старшыні юрыдычнай камісіі БХК, аддзелам па грамадзянстве і міграцыі Маскоўскага раёну г. Менску даведкі аб тым, што з 5 сакавіка 2012 году яго прозьвішча ўнесена ў банк дадзеных аб грамадзянах Рэспублікі Беларусь, права якіх на выезд з Рэспублікі Беларусь часова абмежаванае, у сувязі з тым, што ён нібыта зьяўляецца даўжніком па справе аб банкруцтве або зацікаўленай асобай у адносінах да даўжніка (у Міністэрстве юстыцыі інфармацыя па справе аб банкруцтве адсутнічае);

2. Нагадвае, што ў адпаведнасьці з міжнароднымі нормамі, прынятымі Беларусьсю ў рамках ААН і АБСЕ, права кожнага пакідаць сваю краіну і вяртацца ў яе "ня можа быць аб'ектам ніякіх абмежаваньняў, акрамя тых, якія прадугледжаны законам, неабходныя для аховы дзяржаўнай бясьпекі, грамадзкага парадку, здароўя ці маралі насельніцтва ці правоў і свабодаў іншых" (арт. 12 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, 1966) і што "абмежаваньні гэтага права будуць насіць характар вельмі рэдкіх выключэньняў, будуць лічыцца неабходнымі толькі ў тых выпадках, калі яны адказваюць канкрэтнай грамадзкай патрэбе, перасьледуюць законную мэту і сувымерныя гэтай мэце і ня будуць прадметам злоўжываньня ці адвольнага прымяненьня" (арт. 9/5 Капенгагенскага дакументу АБСЕ, 1990 г.);

3. Разглядае ўвядзеньне вышэйзгаданых абмежаваньняў на свабоду перамяшчэньня для грамадзянскіх актывістаў, праваабаронцаў і апазіцыянераў як адвольныя, неабгрунтаваныя і не адпаведныя ня толькі міжнароднаму праву, але і нацыянальнаму заканадаўству, у сілу таго, што ва ўсіх названых выпадках грамадзянам не былі належным чынам растлумачаныя афіцыйныя прычыны забароны на выезд і ў большасьці выпадкаў не было выканана патрабаваньне аб апавяшчэньні загадзя асобаў аб прынятых у дачыненьні да іх рашэньнях аб забароне на выезд, што прадугледжана нормамі дзеючага Закону Рэспублікі Беларусь ад 20.09.2009 году № 49-З "Аб парадку выезду з Рэспублікі Беларусь і ўезду ў Рэспубліку Беларусь грамадзянаў Рэспублікі Беларусь";

4. Падтрымліваючы нядаўнія ініцыятывы па пашырэньні і далейшым замацаваньні міжнародных стандартаў у галіне свабоды перамяшчэньня праз межы дзяржаваў, у прыватнасьці, праект рашэньня Рады міністраў замежных справаў АБСЕ па свабодзе перамяшчэньня, прапанаваны ў 2011 годзе Беларусьсю і Расіяй, адзначае, што такое пашырэньне немагчыма без захаваньня ўжо існуючых мінімальных стандартаў у гэтай галіне ўсімі дзяржавамі-ўдзельніцамі АБСЕ;

5. Лічыць, што ў бягучай сітуацыі падобны крок з боку ўладаў Беларусі прывядзе да яшчэ большай міжнароднай самаізаляцыі краіны і фактычнай немагчымасьці весьці дыялог з міжнароднай супольнасьцю ні па адным з надзённых праблемных пытаньняў, у першую чаргу, якія тычацца выкананьня правоў чалавека і вяршэнства права.

**Міжнародная назіральная місія патрабуе ад уладаў Рэспублікі Беларусь:**

– У тэрміновым парадку растлумачыць бягучую сітуацыю са "спісамі невыязных", у тым ліку, паведаміць ўсіх грамадзянаў, выезд якіх за межы Беларусі часова абмежаваны, правесьці праверку па кожным выпадку і выключыць з дадзеных спісаў усіх грамадзянаў, унесеных у іх на незаконных падставах або памылкова, даць магчымасьць абскарджаньня па кожным факце абмежаваньня свабоды перамяшчэньня;

– Вярнуць сітуацыю ў прававое поле і гарантаваць у далейшым захаваньне права на свабоду перамяшчэньня, у прыватнасьці, свабоду выезду за межы краіны і вяртаньня ў яе, для ўсіх сваіх грамадзянаў, у тым ліку грамадзянскіх актывістаў, праваабаронцаў, журналістаў і апазіцыйных палітыкаў,

**а таксама заклікае:**

– Дзяржавы-ўдзельніцы АБСЕ і міжурадавыя арганізацыі надаць асаблівую ўвагу сітуацыі, якая склалася ў Беларусі з невыкананьнем міжнародных нормаў і стандартаў у сферы чалавечага вымярэньня і прыняць эфектыўныя і дзейсныя меры для ліквідацыі ў самыя кароткія тэрміны парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі;

– Міжнародныя і нацыянальныя грамадзянскія і праваабарончыя арганізацыі рэгіёну АБСЕ па магчымасьці ўзмацніць сваю прысутнасьць у Беларусі для садзейнічаньня ў абароне правоў чалавека і вяршэнства права ў краіне і выказваньня падтрымкі і салідарнасьці з беларускай грамадзянскай супольнасьцю.

*15 сакавіка 2012 г.*

## Алена Каваленка:

# "Сяргей слабне на вачах"

Алена Каваленка 12 сакавіка выйшла з пакоя для спатканьняў "Валадаркі" ў сьлязах. Яна кажа, што Сяргей выглядае яшчэ слабейшым, і гэта не дзіва, бо, паводле яе падлікаў, муж галадуе ўжо больш за 60 дзён: "Не зьбіраецца кідаць галадоўку, хоць ужо выглядае проста жахліва. Вельмі балюча на яго глядзець, бо яму ўжо цяжка і рухацца, і словы вымаўляць. Нават кожны крок даецца яму з цяжкасьцю. Сказаў, што важыць 51 кілаграм, учора яго ўзважвалі. Тэмпература цела 35,2 градуса, гэта вельмі нізкая тэмпература. Ціск 60 на 90. Нешта яны там круцяць наконт шпіталізацыі – дакладна яму так і не прапаноўвалі шпіталізацыі. Адзін лекар сказаў, што ў яго ўсё нармальна, а другі выбег за ім, як яго павезьлі, што трэба шпіталізацыя. Што яшчэ сказаць?

Мне балюча бачыць, як ён памірае, і сорамна за ўсіх нас, што мы нічога ня робім. Мне проста сорамна за нашую нацыю. А ягоныя патрабаваньні застаюцца тыя самыя – ён патрабуе вызваленьня, бо лічыць сябе невінаватым".

Паводле словаў Алены Каваленкі, яе муж яшчэ цікавіцца навінамі ў сям'і і ў палітычным жыцьці краіны. Найбольш Алену непакоіць тое, што ў мужа падае тэмпература цела – яшчэ ўчора было 35,7 градуса, цяпер – 35,2 градуса. Турэмныя лекары кажуць, што сочаць за станам галадоўшчыка, але Алена адзначае, што яму так і не робяць прамываньне страўніка, не ставяць кропельніцы. "Магчыма, чакаюць, пакуль страціць прытомнасьць, тады пачнуць дзейнічаць", – мяркуе Алена Каваленка.

Сяргею Каваленку на "Валадарцы" прымусова паставілі кропельніцу. Пра гэта паведаміў намесьнік старшыні партыі КХП БНФ Юрась Беленькі, які апякуецца сябрам партыі Сяргеем Каваленкам.

"Нам стала дакладна вядома ад крыніцы ўнутры ізалятару, што 16 сакавіка Сяргея Каваленку прывязалі да ложка і прымусова паставілі яму кропельніцу. Пры гэтым, відаць, нешта не ўлічылі, бо падчас працэдуры прымусовага падсілкаваньня ў яго пашкодзіліся крывяныя сасуды, утварылася гематома. Перадалі, што быццам бы ён зараз у асобнай камеры", – паведаміў Юрась Беленькі.

16 сакавіка супрацоўнік адміністрацыі ізалятару на Валадарскага сказаў маці вязьня Лідзіі Каваленцы: "Сёньня зоймемся вашым сынам". Лідзія Каваленка тады выказала меркаваньне, што сына пачнуць прымусова харчаваць, не забясьпечыўшы яму неабходнага медычнага нагляду. Жанчына патрабавала зьмяшчэньня сына ў цывільны шпіталь дзеля кваліфікаванага лячэньня для выхаду з галадоўкі.

# "Мой бацька памірае за сьцяг"

Алена Каваленка 14 сакавіка апынулася ў Першамайскім РАУС на руках з сямімесячнай дачкой. У машыне Сяргея Парсюкевіча, апроч іх, ехалі яшчэ трое хлопцаў, калі аўто затрымалі супрацоўнікі ДАІ. Сяргея Парсюкевіча абвінавацілі ў тым, што пасажыры былі не прышпіленыя.

"ДАІ накіравала нас у Першамайскі РАУС. Спачатку было сказана, што ў мяне не ў парадку аптэчка. Але ўсе лекі былі з належным тэрмінам прыдатнасьці. Тады зьявілася версія, што былі непрышпіленыя пасажыры. Гэта таксама няпраўда: я адмыслова перад пачаткам паездкі сказаў, каб усе прышпіліліся… На мяне склалі пратакол ды заявілі, што ў межах гэтае справы мусяць агледзець маю машыну. Якое дачыненьне мае адно да другога? Я сказаў, што без санкцыі пракурора ня дам дазволу на агляд. Міліцыянты прывезьлі санкцыю. Агледзелі. Уручылі позву ў ДАІ на 20 сакавіка – будуць разбіраць складзены пратакол", – распавёў Сяргей Парсюкевіч.

Алена Каваленка ды іншыя затрыманыя пасажыры далі пісьмовыя тлумачэньні, што былі прышпіленыя, як належыць. Пасьля гэтага іх адпусьцілі.




*10 сакавіка ў Віцебску актывісты "Еўрапейскай Беларусі" і кампаніі "Гавары праўду", а таксама жонка Сяргея Каваленкі Алена, правялі акцыю ў падтрымку палітвязьня Сяргея Каваленкі. Сямігадовы сын Сяргея Каваленкі трымаў у руках плакат з партрэтам бацькі, на якім было напісана: "Мой бацька памірае за сьцяг. Чаму так?!".*

Спадар Парсюкевіч не выключае, што затрыманьне можа быць неяк зьвязана з акцыяй салідарнасьці з Сяргеем Каваленкам, арганізаванай жонкай палітвязьня, з удзелам дзяцей ды віцебскіх актывістаў: "Спыненьне інспектарамі ДАІ відавочна было толькі нагодай. Нездарма нас павезьлі не ў інспекцыю, а ў пастарунак. І нездарма так пільна аглядалі машыну. Але нічога падазронага супрацоўнікі Першамайскага РАУС там не знайшлі".

# Не дапушчаць "беларусіфікацыі"

## У "Нашу Ніву" трапіў цыркуляр, спушчаны з Адміністрацыі прэзідэнта па вертыкалі

"У выкананьне даручэньняў кіраўніка дзяржавы, дадзеных 24 лютага 2012, у ходзе нарады па выніках Нацыянальнага музычнага праекту "Еўрафэст", першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. М. Радзькоў зьвярнуўся да вас з просьбай у 2012 годзе:

Забясьпечваць аптымізацыю выдаткаў мясцовых бюджэтаў на рэстаўрацыю і рэканструкцыю гісторыка-культурных каштоўнасьцяў, пастаноўку сьпектакляў, фільмаў, канцэртных праграмаў, правядзеньне культурна-забаўляльных мерапрыемстваў;

Прыняць канкрэтныя меры па недапушчэньні правядзеньня кіраўнікамі дзяржаўных органаў, іншых арганізацыяў палітыкі прымусовай беларусіфікацыі і штучнага скарачэньня выкарыстаньня рускай мовы ў іх дзейнасьці".

Дакумент ідзе за подпісам намесьніка начальніцы ўпраўленьня справамі Берасьцейскага аблвыканкаму, загадчыцы аддзелу па арганізацыйна-метадычнай працы і справаводзтве Вольгі Клімаховіч.

Мы патэлефанавалі ў Берасьцейскі аблвыканкам, каб пераканацца ў сапраўднасьці дакумента.

"Так, сапраўдны, – адразу сказала спн. Клімаховіч. – Яны ідуць за маім подпісам, бо ўсе дакументы праходзяць праз мой аддзел, а не адразу да Сумара. Адкуль ён да вас трапіў?"

Даведацца ад Вольгі Клімаховіч, якія меры будуць прымяняць, каб "спыніць прымусовую беларусіфікацыю" нам не ўдалося.

Некалькі гадоў таму ў Берасьцейскім аблвыканкаме кіраўнік аддзелу ідэалогіі Аляксандр Рагачук прапаноўваў чыноўнікам раз на тыдзень размаўляць на працы і з наведнікамі па-беларуску. Рагачук ужо даўно не працуе ў аблвыканкаме, а іншых асаблівых праяваў беларусізацыі ад чыноўнікаў у Берасьцейскай вобласьці заўважана не было.

Што датычыць першага пункту дакументу, які заклікае да "аптымізацыі выдаткаў мясцовых бюджэтаў на рэстаўрацыю і рэканструкцыю гісторыка-культурных каштоўнасьцяў", то гэта можа азначаць спыненьне гэтых праектаў.

Зусім нядаўна міністр культуры Павел Латушка запусьціў дзяржаўную праграму "Замкі Беларусі", якая мела на мэце адраджэньне многіх замкаў, у тым ліку на тэрыторыі Берасьцейшчыны. Цяпер гэтая праграма можа апынуцца пад пытаньнем.

Варта адзначыць, што Павел Латушка быў абвешчаны адным з вінаватых у "фальсіфікацыі вынікаў "Еўрафэсту". Міністру, як і старшыні Белтэлерадыёкампаніі Генадзю Давыдзьку былі абвешчаныя вымовы.

Пра якую "беларусіфікацыю" можа ісьці гаворка, калі летась па-беларуску ў краіне вучылася толькі 19% школьнікаў – драматычна нізкая лічба.

У навучальным годзе 1994/1995 (год прыходу да ўлады Лукашэнкі) у першыя класы з беларускай мовай навучаньня набіралася 75% дзяцей, а ў наступным толькі 38%. Дагэтуль няма ніводнай беларускамоўнай вышэйшай навучальнай установы! Хоць студэнты і грамадзкасьць гэтага даўно дабіваюцца. Абсурд: школьнікі вучацца па-беларуску, але ня маюць універсітэтаў, дзе маглі б працягваць вучыцца па-беларуску. "Элегантная русіфікацыя" ажыцьцяўляецца з дапамогай такіх вось прыёмаў.

Пра інтэнсіўную русіфікацыю сьведчаць вынікі двух перапісаў насельніцтва, якія праходзілі за часамі незалежнасьці. Калі ў 1999 па-беларуску дома размаўляла 36,7% жыхароў краіны, то ў 2009 толькі 23,4%. Няма другой краіны ў Еўропе, дзе б так імкліва зьмяняўся моўны баланс.

"Пытаньні моўныя ў краіне вырашаныя раз і назаўсёды. Прынамсі, калі я буду прэзідэнтам. Мы гэтае пытаньне рашылі на рэфэрэндуме. Мова – гэта тая сфера, якая ня церпіць гвалту. Людзі павінны вырашаць самі. Толькі ідыёт у Беларусі можа адмовіцца ад расійскай мовы. У нас няма тэрмінаў па фізіцы, хіміі на беларускай мове. А тыя, што ёсьць, сорамна гаварыць. У рускай мове, не расейскай, як некаторыя называюць, наша душа", – казаў Лукашэнка ў сьнежні 2009.

"Я ня стану Вас асуджаць за Вашую пазіцыю, – пагрозьліва адказаў Аляксандр Лукашэнка Ганне Капшуль з дзяржаўнай глыбоцкай раёнкі, якая выступіла за пашырэньне сферы ўжываньня беларускай мовы, скарыстаўшыся для гэтага прэс-канферэнцыяй кіраўніка дзяржавы. – Я нікога не папракаю. Гэта права кожнага чалавека – выбіраць. І калі вы ставіце пытаньне, што руская мова – ня родная, то гэта няправільна".

## Чынавенства да роднай мовы ставіцца грэбліва і абыякава...

**Падобна, што нашумелы загад беларускім чыноўнікам не дапушчаць "беларусіфікацыі" ўжо пачаў дзейнічаць у Салігорску. Галоўны ідэолаг Салігорскага раёну М. І. Маскевіч не задаволіў просьбу мясцовай суполкі ТБМ аб правядзеньні 5-й агульнанацыянальнай дыктоўкі на верш Максім Танка "Родная мова", прысьвечанай Міжнароднаму дню роднай мовы. Адмову ў правядзеньні мерапрыемства, якое мусіла адбыцца 15 сакавіка ў адной з залаў Цэнтральнай бібліятэкі ці класе адной з гарадзкіх школаў, чыноўнік у сваім пісьмовым адказе аніяк не матываваў.**

**– Толькі ў нашым горадзе і раёне гэтаму сьвяту не надаецца значэньня, бо занадта чыноўніцкая вертыкаль заангажаваная страхам застацца без партфелю. Нашыя памкненьні правесьці дыктоўкі ва ўстановах ці атрымаць памяшканьне кшталту звычайнага класу ў школе для яе напісаньня натыкаюцца на грознае "Нельзя!" – сьцьвярджае старшыня Салігорскай арганізацыі ГА ТБМ імя Ф. Скарыны Мікалай Шаравар. – Нам, сябрам ТБМ, ад грэблівых адносінаў чынавенства да роднай мовы становіцца вельмі сумна і застаецца толькі адно – туліцца ў 12-ці квадратах жылога памяшканьня, каб напісаць дыктоўку.**

**Гэта ўжо ня першая спроба салігорскага філіялу Таварыства беларускай мовы наладзіць супрацу з мясцовымі чыноўнікамі. Напрыканцы 2011 году сябры ТБМ ужо зьвярталіся да ўладаў з просьбаю правесьці шэраг мерапрыемстваў у гарадзкіх школах, але атрымалі адмову на той фармальнай падставе, што Статутам ТБМ нібыта не прадугледжана правядзеньне працы ва ўстановах адукацыі. Ці варта нагадваць, што праўладныя БРСМ ды "Белая Русь" без аніякіх перашкодаў ня толькі ладзяць свае мерапрыемствы ва ўстановах адукацыі, але і маюць там свае офісныя памяшканьні.**

# Да дзесяці сутак дадалі яшчэ сем

У судзе Маскоўскага раёну Менску 5 сакавіка прайшоў суд над актывістам кампаніі "Гавары праўду" Паўлам Вінаградавым. Ён павінен быў быць вызвалены з Акрэсьціна, дзе адбываў 10 сутак арышту, 2 сакавіка. Аднак блізкія і сябры яго ў той дзень так і не дачакаліся. Толькі позна вечарам ягоная жонка Сьвятлана даведалася, што Павел ізноў на Акрэсьціна. Супрацоўнік міліцыі паведаміў ёй па тэлефоне, што Павел Вінаградаў затрыманы супрацоўнікамі Маскоўскага РУУС за ўчыненьне правапарушэньня і зьмешчаны ў ізалятар на Акрэсьціна.

Паўла Вінаградава абвінавацілі ў дробным хуліганстве (арт. 17.1 КаАП РБ), нібыта ён, пасьля вызваленьня з ізалятару брыдкасловіў каля гастраному. Адміністратыўную справу разглядаў суддзя Яўген Хадкевіч.

Участковы Давідзюк на судзе даў паказаньні супраць Паўла. Да яго далучыўся другі сьведка – участковы Маскоўскага РАУС Лістападаў. Міліцыянты сьцьвярджалі, што Вінаградаў лаяўся матам каля крамы "Кірмаш" (вул. Ясеніна, 12). Прычым, затрымалі яго пасьля таго, як ён быў вызвалены з ізалятару на Акрэсьціна (г. зн. пасьля 17.30 2 сакавіка). Паводле словаў міліцыянтаў, яны рабілі звычайнае патруляваньне і зьвярнулі ўвагу на Вінаградава. Вінаградаў, у сваю чаргу, заявіў, што сьведкі хлусяць.


Павел ВІНАГРАДАЎ.

Ад адвакатаў Павел адмовіўся, ніякіх хадайніцтваў не заяўляў. Падтрымаць Паўла прыехаў праваабаронца Валянцін Стэфановіч. У выніку суддзя адправіў пратакол на дапрацоўку ў РУУС Маскоўскага раёну, а Вінаградава вызвалілі да суда.

Нагадаем, што актывіст кампаніі "Гавары праўду!" Аляксандр Арцыбашаў, які пасьля 10 сутак адміністрацыйнага арышту павінен быў таксама выйсьці на волю, 2 сакавіка быў тэрмінова дастаўлены ў суд, дзе атрымаў яшчэ 7 сутак за ўдзел у акцыі "Хрэн ад прэзідэнта". Пра гэта выпадкова даведаўся ягоны сябар Міхась Пашкевіч, які чакаў яго каля ізалятару часовага ўтрыманьня на Акрэсьціна.

13 сакавіка прайшло трэцяе судовае паседжаньне па справе Вінаградава. 5 сакавіка суддзя Хадкевіч вярнуў дакументы і пратаколы ў Маскоўскі РУУС на дапрацоўку. А 12 сакавіка запрасіў новага сьведку – супрацоўніка Цэнтру ізаляцыі правапарушальнікаў, што на Акрэсьціна, спадара Гасьперчыка.

Паводле словаў сьведкаў-міліцыянтаў, Паўла Вінаградава вызвалілі з Акрэсьціна 2 сакавіка пасьля 10-дзённага арышту ў 18:35. А крыху пазьней яго затрымалі на ганку крамы "Кірмаш". Ён быццам крычаў там: "Я на свабодзе!" і нецэнзурна лаяўся.

Паводле словаў самога Паўла Вінаградава, яго і не выпускалі 2 сакавіка з Акрэсьціна, а пасадзілі ў "варанок" і прывезьлі ў пастарунак па вуліцы Ясеніна. З вакна яму паказалі краму, дзе быццам бы ён лаяўся.

На судзе дапыталі ў якасьці сьведкі міліцыянта з Акрэсьціна Гасьперчыка. Ён сьцьвярджаў, што асабіста вызваліў Вінаградава ў 18:35. Камеры назіраньня на будынку Цэнтру ізаляцыі правапарушальнікаў у гэты час чамусьці не працавалі. Сябры Паўла, блізу 15 чалавек, бацька і жонка ў гэты час чакалі яго каля будынка. Аднак Павал ня выйшаў. І толькі а палове на дзясятую вечара з міліцыі патэлефанавалі жонцы і сказалі, што Паўла зноў затрымалі.

У выніку суддзя Яўген Хадкевіч вынес прысуд па адміністрацыйнай справе актывіста грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду" Паўла Вінаградава – 7 сутак адміністрацыйнага арышту. З улікам таго, што трое сутак ён ужо адседзеў, Вінаградаву трэба яшчэ адбыць на Акрэсьціна чацьвёра сутак.

# Пад прэвентыўны нагляд

У судзе Першамайскага раёну Менску прайшло судовае паседжаньне, па выніках якога ўсталяваны прэвентыўны нагляд тэрмінам на 1 год за былым палітвязьнем Уладзімірам Яроменкам. Паседжаньне вёў суддзя Сяргей Бандарэнка, які 24 лістапада мінулага году асудзіў старшыню Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алеся Бяляцкага да 4,5 гадоў зьняволеньня. Уладзіміра Яроменку даставілі на суд у кайданках. Толькі пасьля заўвагаў праваабаронцаў кайданкі з яго зьнялі. Канваіры завялі маладзёна ў пакой суддзі. Праваабаронцаў у пакой, дзе разглядалася справа, не пусьцілі.

Уладзімір Яроменак будзе абавязаны:

• зьяўляцца па выкліках у органы ўнутраных справаў і даваць тлумачэньні па пытаньнях выкананьня патрабаваньняў прэвентыўнага нагляду;

• папярэджваць орган унутраных справаў аб зьмене месцаў працы і жыхарства;

• выязджаць за межы раёну (гораду) толькі са згоды органа ўнутраных справаў.

Пры гэтым упаўнаважаныя супрацоўнікі змогуць наведваць Уладзіміра Яроменка ў любы час сутак. З моманту вызваленьня за ім вялося прафілактычнае назіраньне ў адпаведнасьці з арт. 196 Крымінальна-выканаўчага кодэксу. У адпаведнасьці з арт. 80 Крымінальнага кодэксу пасьля трэцяга прыцягненьня да адміністрацыйнай адказнасьці за Уладзімірам Яроменкам усталяваны прэвентыўны нагляд.

11 сакавіка суд Ленінскага раёну Менску прызнаў чатырох актывістаў Маладога фронту



Уладзімір ЯРОМЕНКА.

Уладзіміра Яроменку, Міхася Мускага, Зьмітра Крэмянецкага і Рамана Васільева вінаватымі ў парушэньні артыкулу 23.34 КаАП РБ і пакараў арыштам на 15 сутак за ўдзел у акцыі-перфомансе, што адбылася 29 лютага каля будынку Міністэрства замежных справаў Беларусі "Падцярыцеся!". Тады невядомыя юнакі закідалі МЗС рулонамі туалетнай паперы.

# З турмы "дадому", або Вызваленьне па-беларуску

Афіцыйная статыстыка сьведчыць: кожнае другое злачынства ў Беларусі ўчыняецца раней асуджанымі. Штогод у турмы вяртаецца прыкладна палова ад усіх 10 тысяч вызваленых. Пра праблемы ўліваньня ў грамадзтва, а таксама пра спакусы, якія паўстаюць перад былымі асуджанымі ў самыя першыя дні вяртаньня дадому, "Платформа" распавядае на прыкладзе былога вязьня мазырскай папраўчай калоніі № 20 Вадзіма Рабцава.



Вадзім РАБЦАЎ у абрабаваным бацькоўскім доме.

**Грошы, каб дабрацца дадому**

1 сакавіка а 10-й раніцы за Вадзімам Рабцавым, які правёў у зьняволеньні агулам 11 гадоў, зачынілася брама КПП папраўчай калоніі № 20. Сустракаць яго не было каму. За час, праведзены ў турме, у хлопца памерла маці, паміж першай і другой адседкай Вадзім пахаваў бацьку. З блізкіх застаўся толькі дзядзька ў Полацку, а з уласнасьці – бацькоўскі дом за 6 кіламетраў ад Полацку, у вёсцы Мінтурава. Дадому – літаральна праз усю краіну – трэба было дабірацца самастойна. Самы танны, начны цягнік у Полацак адпраўляўся з Калінкавічаў а 22-й. Квіток на яго ў агульны вагон каштаваў звыш 15 тысяч рублёў. Аднак спачатку трэба было трапіць з зоны да Мазыра трамваем (5 тысяч). Прыкладна столькі ж каштаваў праезд да Калінкавічаў, дзе цягніка трэба было чакаць яшчэ 10 гадзін.

Пры вызваленьні калонія разам з дакументамі павінна выдаваць былому асуджанаму пэўную суму на праезд да месца пражываньня, а таксама на харчаваньне ў дарозе. Вадзім разьлічваў на яе, бо ніякай гатоўкі ў яго не было. Хоць падчас адседкі ў Мазыры ён рабіў на прамзоне і заробкі былі цалкам прыстойныя, як на зонаўскія меркі. Большую частку з заробленай Вадзімам сумы калонія вылічвала на так званае ўтрыманьне ва ўстанове. У выніку ён яшчэ застаўся вінен дзяржаве 84 250 беларускіх рублёў.

1 сакавіка Вадзім атрымаў ад адміністрацыі калёніі ўякасьці праязных 10 тысяч 620 рублёў. У былога асуджанага, які афіцыйна стаў на шлях выпраўленьня, было некалькі варыянтаў, каб трапіць дадому: пайсьці пешшу, прасіць грошы ў мінакоў або красьці. Апошні варыянт – крадзеж у першы дзень волі – Вадзім адразу адкінуў. Што да падарожжа пешшу, то гэта таксама было ня выйсьце. У першы веснавы дзень ён апынуўся на волі ў адным швэдары. Саромеючыся і хаваючы вочы, Вадзім пачаў прасіць у людзей грошы на дарогу, тлумачачы сваю складаную сітуацыю. Так удалося назьбіраць яшчэ тысяч дзесяць. У Полацак Вадзім прыбыў 2 сакавіка а 8-й раніцы. Апошняй ягонай ежай быў сьняданак у Мазырскай калоніі. Наперадзе быў шлях ў родную вёску Мінтурава, дзе ён нарадзіўся і ўсе гэтыя гады быў прапісаны. Для хлопца гэты шлях выглядаў яшчэ больш праблематычным, а таму напярэдадні ён выклаў сваю сытуацыю праваабаронцам з "Платформы". Яны і сустрэлі яго на полацкім вакзале.

**Як робяцца бамжамі**

"Вадзім зьвярнуўся да нас, таму што за час адседкі ён фактычна стаў бамжом, – кажа намесьніца кіраўніка "Платформы" Алёна Красоўская. – Незадоўга да яго вызваленьня сьпецаддзел ПК-20 накіраваў запыт на месца ягонай прапіскі. З атрыманага адказу Салонінскага сельсавету вынікала, што бацькоўскі дом разрабаваны і непрыдатны для таго, каб там жыць. Адміністрацыя калоніі паабяцала яму дапамагчы вырашыць гэтае пытаньне. У выніку ў даведку аб месцы пражываньня на волі ўпісалі адрас дзядзькі ў Полацку. З дзядзькам у маладога чалавека не было трывалых кантактаў. Зразумела, што ніхто ня стаў цікавіцца, ці жадае той жыць разам з пляменьнікам. Фармальнасьці адміністрацыя выканала, а далей – "хочаш – жыві, хочаш – не жыві".

Праваабаронцам зрабілася відавочна, што Вадзім прапісаны літаральна "нідзе". Яны паспрабавалі высьветліць у мясцовых жыхароў, хто ўчыніў такое з домам Рабцавых. Але тыя сарамліва хавалі вочы ці казалі, што гэта ні ў якім разе не яны, і раілі нам зьвярнуцца ў сельсавет або да ўчастковага Крупеніча.

"Сітуацыя з домам Вадзіма не была б такой абсурднай, калі б дом, які стаіць побач з домам Вадзіма, ня быў набыты пад дачу, як кажуць мясцовыя жыхары, тым самым участковым", – працягвае Алёна Красоўская. – Меркаваць, што ўчастковы інспектар Полацкага РАУС не заўважыў, што зрабілася з домам насупраць, немагчыма. Як высьветлілася з тэлефоннай размовы з ім, рабункі дамоў, гэтаксама як і месца жыхарства Вадзіма Рабцава, у ягоную кампетэнцыю не ўваходзяць, кола абавязкаў участковага – грамадзкі парадак".

Паматацца ў той дзень давялося шмат. Добра, што ў праваабаронцаў была машына.

"Урэшце Вадзіма ўладкавалі ў прадпрыемства "Полацкі аграсэрвіс". Былому вязьню далі часовае жытло і працу. У яго зьявіўся яшчэ адзін шанец пачаць жыцьцё з чыстага аркуша, – кажа Алёна Красоўская. – Мяркуючы толькі па адным дні, які мы правялі разам з ім, сацыяльная рэабілітацыя хлопца ў нашым грамадзтве выглядае справай вельмі няпростай. Падставаў для вяртаньня назад куды болей. Вельмі хацелася б верыць у лепшае".

*Паводле Радыё "Свабода"*



"Права на волю". Праваабарончы бюлетэнь. Выходзіць два разы на месяц.
Наклад 299 асобнікаў. Пры передруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.